**Выдавец:**
Прыватнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс», пасв. №391053932, выд. 12.10. 2009 г. Глыбоцкім РВК.
Перыядычнасць – 1 раз на тыдзень, дзень выхаду – чацвер.

**Выдаецца са снежня 1994 года**

**№ 43 (759) 23 кастрычніка 2014 года.**
**Кошт свабодны.**

Штотыднёвая газета

# Вольнае Глыбокае

vglybokaye@tut.by


Залатая восень.
Photo ByMedia.net

**Вокны, дзверы ПВХ**
RENAU SALAMANDER Brusbox, WDS, KBE
алюмініевыя балконныя рамы
металічныя і міжпакаёвыя
*замер, дастаўка – бясплатная*
высокая якасць,
танныя кошты
*растэрміноўка плацяжу*
м-н «Крышталь», вул. Леніна, 114-а
**МТС: (029) 716-28-26**
ИП Рамвінчук Д.С.; УНП 300018652

Молодечненские
**ОКНА ПВХ**
АЛЮМИНИЕВЫЕ РАМЫ + МЕТАЛЛИЧЕСКИЕ ДВЕРИ
НЕМЕЦКИЙ ПЛАСТИК **FORIS**
(Германия 100%) без свинца
*Профессиональный монтаж*
*Собственное производство*
Тел.: 8 (029) 641-62-94 (velcom); 8 (029) 857-35-43 (МТС)
ООО «Рекомпласт», г. Молодечно, УНП 690450197

**4 ноября октрывается**
*обновленный ювелирный магазин*
**"ОБЛИК"** г. Глубокое, ул. Кирова 30/2
Фирменная секция ювелирного завода "Зорка" с широким ассортиментом швейцарских часов и авторучек.
К дню открытия – каждому покупателю **скидки от 5 до 25%** в течение 10 дней.
ИП Стежкин С.В, УНП 390289159

В ТОРГОВОЙ СЕТИ «ХОРС-МОТОРС» www.moto-minsk.by www.vales.by
HORS MOTORS
**НОВОЕ ПОСТУПЛЕНИЕ!!!**
AVA MAGNUM
МОТОКУЛЬТИВАТОР М 200 G 9
ГАРАНТИЯ
ЗАПЧАСТИ
СЕРВИС
КРЕДИТ
Двигатель мощностью 9 л.с.
БОЛЬШИЕ КОЛЕСА
НАЛИЧНЫЙ И БЕЗНАЛИЧНЫЙ РАСЧЕТ
А ТАКЖЕ В ПРОДАЖЕ:
- скутеры;
- квадроциклы;
- бензокосы;
- бензопилы;
- мотокультиваторы;
- сварочные аппараты;
- бензогенераторы;
- мотопомпы;
- компрессоры;
- бетономешалки;
- мотоблоки МТЗ;
- двигатели к мотоблокам МТЗ
г. Глубокое, рынок «ОДО Верас», ул. Гагарина, 4
тел.: 8 (033) 320-82-02 8(044) 534-58-74

ЭКОЛОГИЧЕСКИ ЧИСТЫЙ 5-ТИ КАМЕРНЫЙ ПРОФИЛЬ
БЕЗ СВИНЦА
ПО ЦЕНЕ 3-Х КАМЕРНОГО!
РАССРОЧКА ПЛАТЕЖА без % до 6 месяцев
ТЕПЛЫЕ ОТКОСЫ В ДЕНЬ МОНТАЖА
ПРОФЕССИОНАЛЬНЫЙ МОНТАЖ
ГАРАНТИЙНОЕ ОБСЛУЖИВАНИЕ
**АКЦИЯ!**
ПЕРВЫМ 10-ТИ КЛИЕНТАМ ЖАЛЮЗИ НА КУХНЮ ПО ЦЕНЕ 350 000 РУБ. - В ПОДАРОК!
Работаем без выходных! Наличный и безналичный расчет.
(+375 33) 604-77-88 МТС
(+375 29) 308-77-88 velcom
Звоните прямо сейчас!
**ОКНА ПВХ**
ЖАЛЮЗИ. РОЛЬШТОРЫ
ИП Луговой В.В. УНП 391965562

**МОЛОДЕЧНЕНСКИЕ ОКНА ПВХ**
+375 29 505 33 66 МТС

Коррекция фигуры методом биомеханической стимуляции
- Уменьшение в объемах за 10-15 занятий
- Упругие и эластичные мышцы
- Эффективная антицеллюлитная программа
- Восстановление фигуры после родов
- Омоложение организма
- Пробный урок – 35 000 рублей
ул. Красноармейская, 19
мтс 8(029)837-53-02 life:) 8(025)923-91-57
УНП 691765416 ИП Дылевич И.А.

УНП 391523035 Торговый дом БЕГЕМОТ, ул. Ленина, д. 87, 1 этаж
**ОКНА, ДВЕРИ**
- двери входные стальные;
- двери межкомнатные;
- окна ПВХ;
- рамы балконные;
- сетки москитные;
- подоконники и отливы.
**КУХНИ**
**ШКАФЫ - КУПЕ**
по индивидуальным размерам
мтс: (029) 518-62-35; (029) 717-62-35

ФИЛИАЛ «АТП №16 г.Глубокое» ул.Красноармейская 84
**оказывает услуги по ремонту и обслуживанию автомобилей:**
1. КОМПЬЮТЕРНАЯ ДИАГНОСТИКА;
2. РАЗВАЛ СХОЖДЕНИЕ. РЕМОНТ ПОДВЕСКИ;
3. ЗАМЕНА МАСЕЛ И ТЕХНИЧЕСКИХ ЖИДКОСТЕЙ;
4. ШИНОМАНТАЖ И БАЛАНСИРОВКА;
5. РЕМОНТ ТОПЛИВНОЙ АППАРАТУРЫ ДИЗЕЛЬНЫХ ДВИГАТЕЛЕЙ (ФОРСУНОК. ТНВД);
6. РЕМОНТ ЭЛЕКТРООБОРУДОВАНИЯ (СТАРТЕРОВ И ГЕНЕРАТОРОВ);
Заявки по телефонам: 8 156 2 -86 -64; МТС:358-56-80 МТС: 218-86-64.
УНП 3009911573.

**ВОРОТА** продажа. монтаж. сервис
*гарантия 2 года*
- Секционные: гаражные и промышленные ворота всех типов
- Автоматика, шлагбаумы: NICE, AN-MOTORS
- Роллеты, роллетные ворота
- Откатные ворота, калитки
- Комплектующие для откатных ворот
vel.: 44 488-97-52
мтс: 29 772-22-98
ИП Барков В.Г.: УНП 192230366

**ШЫФЕР**
8-хвалевы, 1750х1130
**ПЕНАПЛАСТ**
магазін «Люкс», г. Глыбокае, вул. Горкага, 2 А
Маркі: ППТ-10-А; ППТ-15Н-А; ППТ-25Н-А
Памер пліт: 1х1,2 м; 1,2х1,5 м
Таўшчыня: 20; 30; 50; 80; 100 мм
тэл.: (029) 594-60-47
*Заводская якасць, зніжкі, дастаўка!!!*
ААТ «Маркет Прадукт»; УНП 390380527

**Камп'ютарны сервіс** Без % крэдыт
*на Маскоўскай, 10, 2-гі паверх*
- камп'ютары, - ноўтбукі, - камплектуючыя,
- аргтэхніка, - аксесуары,
- рамонт і абслугоўванне,
- запраўка і рамонт картрыджаў,
- фотаапараты, - тэлефоны,
- ВК тэлевізары
мтс: (033) 395-8000
vel (029) 395-8000
Мне патрэбная дамамога майстра!
ІП Катлёнак А.А.; УНП 391058112

Домашний Декор – House-Décor.by
**Натяжные потолки**
Керамическая **плитка**
Декоративный **камень**
**Обои:** *виниловые, пробковые, жидкие, фото*
*Двери, линолеум, ламинат, комплектующие*
*Наличный и безналичный расчет*
+375(29) 214-34-55(мтс) +375(44) 463-84-36(велк)
Гагарина 4: ЧТУП «Тайдик плюс» УНП 391057606

**Выкуп авто**
в любом состоянии
**ДОРОГО**
лайф: (025) 732-39-39
УНП 390012176

Шкафы-купе
**SENATOR**
по индивидуальным размерам
**КУХНИ** ПРИХОЖИЕ, ГОРКИ, СПАЛЬНИ, КОМОДЫ и др.
ДЕШЕВЛЕ - ТОЛЬКО У НАС!!!
УНН 391532041
мтс: 8-029-815-20-33; мтс: 8-033-613-57-43

Цифровой мир | ул. Энгельса 45
SAMSUNG ASUS acer lenovo LG Canon hp
ноутбуки, компьютеры, моноблоки, планшеты, ЖК телевизоры, фотоаппараты, GPS-навигаторы и др.
выгодная рассрочка
Техническое обслуживание и ремонт, модернизация и диагностика компьютерной техники
Заправка и восстановление картриджей
8(02156)2-38-32, 8(02156)2-38-31
8(033)6-779-779
Частное торговое унитарное предприятие «Цифровая галактика» УНП 390497399

## Чашніцкі раён

# Энергетыка служыць людзям

■ Станіслаў Раманчук

**Акрамя ўзвядзення каскаду ГЭС на рацэ Заходняя Дзвіна і будаўніцтва Беларускай АЭС айчынная энергасістэма імкнецца актыўна развівацца, укараняць самыя сучасныя тэхналогіі.** Вось і на самай магутнай у краіне Лукомльскай ГРЭС, што ў Чашніцкім раёне, таксама многае змянілася ў лепшы бок. За два з паловай гады працы з дапамогай кітайскіх спецыялістаў тут сёлета ўвялі найноўшую парагазавую ўстаноўку. Новыя працоўныя месцы атрымалі маладыя высокакваліфікаваныя спецыялісты, а галоўнае, што радуе калектыў станцыі, кожны дзень эканоміцца больш 80 тысяч долараў пры выпрацоўцы электраэнергіі спажыўцам. Гэта ўстаноўка адпавядае экалагічным нормам, значна меней выкідвае ў атмасферу шкодных рэчываў, чым раней. У суседнім Бешанковіцкім раёне дзякуючы ўзводзімай Полацкай ГЭС прыкметна палепшыўся настрой жыхароў буйнога мястэчка Ула. Раней аднайменная рака, адзін з прытокаў Дзвіны, падчас веснавой паводкі шырока разлівалася, затапляла поўнасцю стары мост. І тады вяскоўцы на другім беразе аказваліся на тыдзень і болей адрэзанымі ад цывілізацыі, перапраўляліся на лодках, што было рызыкоўна. Сёлета спецыялісты зрабілі бетоннае ўмацаванне схілаў берагоў абедзвюх рэк, вада будзе падыходзіць толькі да вызначанага ўзроўню. Таксама ў паўкіламетры ад старой пераправы па цячэнні ракі пабудавалі новы мост, што і вырашыла ранейшыя бытавыя нязручнасці. Нават у моцнае разводдзе руху тэхнікі і пешаходаў больш нічога не будзе тут перашкаджаць.

## Пастаўскі раён

# Кліентам зручна і ўтульна

■ Кастусь Александровіч

**Хоць апошнім часам імкліва развіваецца Інтэрнэт і іншыя электронныя сродкі камунікацый, ва ўсім свеце па-ранейшым распаўсюджаны і паслугі пошты.**

Надзейным членам Сусветнага паштовага саюза з'яўляецца і наша "Белпошта", узровень дзейнасці якой адзначаны бронзавым сертыфікатам гэтай буйной міжнароднай арганізацыі. Актыўна працаваць у гэтым накірунку імкнуцца і супрацоўнікі Пастаўскага раённага вузла паштовай сувязі, дзе ў іх аддзяленнях актыўна ўкараняецца электроннае праграмнае абслугоўванне. Напярэдадні ж сёлетняга Сусветнага дня пошты ў райцэнтры побач з раённым паштамтам адкрыўся новы офіс "Бізнес-пошты", ужо восьмы па ліку на Віцебшчыне. Дагэтуль карпаратыўных кліентаў сталі абслугоўваць падобныя цэнтры ў Віцебску, Оршы, Полацку з Наваполацкам, а таксама ў Глыбокім і Лепелі. Дагэтуль у горадзе заўжды было багата кліентаў у паштавікоў, узнікалі нават чэргі. Цяпер гэта праблема і ў Паставах не актуальная, бо суб'екты гаспадарання і прадпрымальнікі сталі абслугоўвацца асобна ў індывідуальным парадку ў вызначаны тэрмін. Да таго ж дзелавым людзям не трэба губляць свой час, бо ўвялі асобнае абслугоўванне юрыдычных асоб па льготных тарыфах паслугі "Паштовы кур'ер" з выездам на месца. Нават пасылкі і важныя дакументы можна адправіць, не пакідаючы свайго працоўнага месца. Стала магчыма карыстацца электроннай маркай, паскоранай поштай з адзнакамі "1 клас" і паслугай "Камфорт".

## Полацкі раён

# Дарога памылак не даруе

■ Чэслаў Якубовіч

**Штогод з надыходам сапраўднай восені і імклівым скарачэннем светлавога дня на дарогах краіны рэзка павялічваецца колькасць розных дарожна-транспартных здарэнняў.**

Асабліва сумна, што ў бяду часцей за іншых трапляюць менавіта пешаходы, веласіпедысты і конныя павозкі. Толькі летась у 4-м квартале года ў Прыдзвінні было зафіксавана 105 такіх ДТЗ, у якіх 33 суайчыннікі загінулі і 78 чалавек атрымалі розныя раненні. Каб не было новых жыццёвых трагедый, паўсюдна на працягу паўмесяца праходзіла прафілактычная акцыя "Стань прыкметным у цемры". Аднак, як высветлілася, не ўсе людзі усведамляюць сур'ёзнасць гэтай праблемы. Толькі ў Полацкім раёне на працягу аднаго тыдня трагічна загінулі яшчэ два пешаходы. Спачатку ў Наваполацку на цэнтральнай вуліцы Маладзёжнай надвячоркам раптоўна выйшаў на праезную частку пенсіянер. На бяду, у гэты момант на хуткасці ехаў малады матацыкліст-байкер. Ён не здолеў прадухіліць наезд і разам з пацярпелым быў дастаўлены ў гарбальніцу, дзе праз некалькі гадзін 60-гадовы гараджанін памёр. Праз некалькі дзён пасля гэтага інцыдэнту ў іншы свет адышоў яшчэ адзін 65-гадовы мужчына з Наваполацка. Паблізу вёскі Залессе ён стаяў на дарозе, калі на яго пры раз'ездзе машын наляцеў на "Жыгулях" мясцовы жыхар. Атрыманая траўма аказалася смяротнай і, на жаль, на вопратцы загінуўшага не было ніякіх светлаадбіўных элементаў.

## Надвор'е ў Глыбокім

www. rp5ru

| | Чацвер 23.10.14 | | | | Пятніца 24.10.14 | | | | Субота 25.10.14 | | | | Нядзеля 26.10.14 | | | | Пн.27.10. | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мясцовы час | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 |
| Хмарнасць | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Ападкі | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Тэмпература | -3 | -5 | -1 | -4 | -4 | -5 | +1 | -2 | -3 | -4 | +2 | -2 | -2 | -3 | +4 | -1 | -2 | -3 | +4 |
| Ціск | 752 | 754 | 756 | 758 | 759 | 761 | 761 | 761 | 761 | 761 | 760 | 760 | 761 | 761 | 761 | 762 | 762 | 762 | 762 |
| Вільготнасць | 73 | 73 | 56 | 73 | 67 | 66 | 49 | 70 | 74 | 77 | 46 | 67 | 69 | 73 | 45 | 70 | 76 | 74 | 43 |
| Вецер м/сек | 6 У | 6 У | 5 У | 5 У | 4 У | 5 Пд-У | 5 Пд-У | 5 Пд-У | 5 Пд-У | 5 Пд | 6 Пд | 7 Пд | 6 Пд | 5 Пд | 5 Пд | 5 Пд | 5 Пд | 4 Пд | 5 Пд |

# Аб самым надзённым

## ВОСЕНЬСКІ СКАЧОК ЦЭН У БЕЛАРУСІ НАВАТ ПАВЯЛІЧЫЎСЯ Ў ПАЎТАРЫ РАЗЫ




■ Аляксандр Цішкевіч

**Як паведаміў Белстат, у верасні гэтага года ў Беларусі зафіксаваны рост спажывецкіх цэн нават у паўтары разы большы, у параўнанні з леташнім перыядам. З пачатку года інфляцыя склала больш 13 %.**

Кожны чалавек з цягам часу прывыкае да розных жыццёвых цяжкасцей і праблем, якія могуць сустракацца ў жыцці. Што ж тады гаварыць пра нас, беларусаў, бо мы працяглы час сутыкаемся са штогадовай галапіруючай інфляцыяй. Ужо не толькі наша кіраўніцтва, але і простыя людзі адчуваюць, што ў айчыннай эканоміцы існуюць сур'ёзныя праблемы і дысбалансы, сведчаннем чаго застаецца няспынны рост цэн і тарыфаў. Не стала выключэннем і сёлетняя восень.

Як паведаміў Белстат, у верасні гэтага года ў Беларусі зафіксаваны рост спажывецкіх цэн нават у паўтары разы большы, у параўнанні з леташнім перыядам. З пачатку года інфляцыя склала больш 13 %. Як і чакалася, "рэкардсменам" стала аплата паслуг за навучанне ў айчынных ВНУ. З пачаткам новага навучальнага года за права наведваць лекцыі студэнтам-платнікам трэба было плаціць на 17,2 % болей, чым раней. Увогуле ў нейкай своеасаблівай дзяржаве мы жывём, бо як можна растлумачыць тое, што ў пачатку восені істотна (на 10,1 %) падаражэла гародніна, калі самы пік збору дароў садоў і агародаў новага ўраджаю.

Паўсюдна ў Еўропе сёлета фрукты патаннелі з-за ўведзенага Расіяй дзіўнага эмбарга на заходнія прадукты, але ў нас наадварот. Садавіна ў Беларусі ў верасні стала яшчэ даражэйшай, па дадзеных афіцыйнай статыстыкі, на 4 %, а розныя чаі – на 2,4 %. Праўда, крыху патаннела бульба - спрадвечны прадукт "бульбашоў", аднак у гэтым годзе ўраджай слабейшы і цана "другога хлеба" будзе крыху "кусацца". Такія прыклады можна прыводзіць і яшчэ, а пакуль урад Беларусі нацэльвае нас, што насельніцтва з 2017 года стане поўнасцю на 100 % кампенсаваць расходы на аказанне камунальных паслуг.

Як вядома, у нашай краіны цяпер вялізныя знешнія даўгі, а ў будучым годзе недзе трэба будзе адшукаць больш 4 млрд. долараў на іх пагашэнне. У няпростай сітуацыі афіцыйнаму Мінску днямі зноў пайшоў насустрач Крэмль і даволі дорага праплаціў за ратыфікацыю Еўразійскага саюза. Бакі дамовіліся, што Беларусь у 2015 годзе поўнасцю пакіне сабе вывазныя мытныя пошліны на нафтапрадукты. Такія сродкі, безумоўна, у першую чаргу пойдуць на аплату даўгоў па ранейшых крэдытах. Як вядома, наступны год будзе адзначаны важнейшай палітычнай падзеяй – прэзідэнцкімі выбарамі, якія пройдуць у лістападзе.

Таму, хутчэй усяго, налетась год пражывём больш-менш спакойна, улады пастараюцца не дапусціць розных эканамічных узрушэнняў і абвалу нацвалюты. Каб Расія не аказала падтрымку свайму саюзніку, то страты нашага дзяржбюджэту маглі б перавысіць 1 млрд. долараў. Адзінае, што такое вальготнае жыццё для нас працягнецца гады са два, паколькі з 2017 года Расія, у адпаведнасці з пагадненнем аб уступленні ў Сусветную гандлёвую арганізацыю, павінна павысіць свае ўнутраныя цэны на энерганосьбіты да ўзроўню сусветных. Часу на розныя манеўры і ў расіян (у іх зараз пэўная стагнацыя з-за заходніх санкцый), і ў нас застаецца няшмат, а трэба яшчэ праводзіць тэхпераўзбраенне вытворчасці.

Аднак, на жаль, мадэрнізацыя па-беларуску ідзе кепска. Да прыкладу, яшчэ ў 2007 годзе намецілі за 3 гады давесці да сусветнага ўзроўню 9 прадпрыемстваў дрэваапрацоўкі. Аднак і дагэтуль падлічваем страты, хоць затраты на мадэрнізацыю выраслі ў 3 разы, на праектную магутнасць ніводны камбінатдрэў не выйшаў, а асобных дырэктараў пачалі судзіць на гучных судовых працэсах. Таксама па-ранейшым дрэнна прадаюцца беларускія тавары. І невыпадкова Міністэрства гандлю Беларусі прапанавала адпавіць у будучым годзе льготнае спажывецкае крэдытаванне фізічных асоб, хто з іх купляць вызначаныя ўрадам групы тавараў.

У нас 5 гадоў назад такі механізм ужо дзейнічаў і ўключаў цэлых 55 таварных пазіцый. Аднак вясной 2011 года, у разгар шалёнага росту цэн і абрушэння рубля, крэдытаванне банкі спынілі, бо дзяржбюджэт трашчаў і не мог кампенсаваць банскаўскім установам расходы з выдачай спажыўцам прымальных крэдытаў на тавары. Мяркуючы па ўсім, да выбараў не будзе ў нас ніякіх структурных і эканамічных рэформ і патэнцыйным пенсіянерам можна спаць спакойна, бо А. Лукашэнка не пойдзе пакуль на павышэнне пенсійнага ўзросту.

З іншага боку аднабокая арыентацыя на адну Расію мае і свае мінусы. Хай сабе, улады засталіся без мінскага часу, адмовіліся пераходзіць на "зімовы час" і зверяць гадзіннікі беларусы ў далейшым станоць па бою крамлёўскіх курантаў. Гэта не так і істотна па вялікім рахунку. А вось надзеі добра падзарабіць на павелічэнні аб'ёмаў прадаж беларускай ежы на расійскіх прасторах не спраўджваюцца.

З сярэдзіны жніўня беларусы сталі значна болей прадаваць у Расію на 15-48 % мяса, сыроў, масла, але выручка ад такога экспарту зменшылася напрыканцы лета на 160 млн. долараў. Разлікі за нашы прадукты вядуцца ў расійскіх рублях, а яны імкліва слабеюць. Да канца года ходзяць размовы, што рубль РФ у адносінах да долара ўпадзе да 45-50 адзінак за адзін зялёненькі $. Аднак нашы пастаўкі харчавання рускім да канца снежня намечана толькі павялічваць, бо суседзі ў бядзе, а многія расіяне ўжо скупляюць замежную валюту ў прадчуванні яшчэ горшых часоў.

## Дзень за днём

**Беларусь будзе ўдзельнічаць у ЕАЭС пры ўмове зняцця “бар'ераў, абмежаванняў і выключэнняў”, Крэмль на 2015 год пайшоў нам насустрач. У верасні значна вырас попыт на замежную валюту, рэзка вырасла запазычанасць па зарплаце да 123,3 млрд. рублёў, інфляцыя вырасла з пачатку года да 13,4 %. Заробкі не атрымалі 34 тысячы чалавек з 222 прадпрыемстваў і арганізацый. На пастаўках харчавання ў Расію Беларусь зарабляе меней з-за абвалу расійскага рубля. Для забеспячэння ўнутранага рынку да канца года да 60 тысяч тон павялічылі квоты на завоз мяса свініны і птушкі. З 2015 года могуць пачаць ставіць на ўлік педафілаў.**

# Важнейшыя навіны свету

**Бельгія**. Новы прадстаўнік ЕС па знешняй палітыцы Ф. Магерыні заявіла, што трэба дапамагчы Украіне, больш цесна супрацоўнічаць з Беларуссю, змяніць адносіны з РФ.

**ЗША.** Памочнік дзяржсакратара ЗША В. Нуланд заявіла, што амерыканцы дапамогуць Украіне закрыць граніцу з Расіяй, без гэтага там не будзе міру і стабільнасці.

**Расія.** Ля чыгуначнага вакзала ў Грозным на Дзень горада малады 19-гадовы тэрарыст учыніў самавыбух, загінула 5 паліцэйскіх, яшчэ 12 чалавек былі паранены.

**Украіна.** Кампанія “Нафтагаз” пачала атрымоўваць газ па кантракце з Нарвегіяй праз Славакію, паліва ўкраінцам на зіму таксама пастаўляюць Польшча і Венгрыя.

**Румынія.** Улады закрылі расійскі НПЗ кампаніі “Лукойл” у Плоешці, пракуратура расследуе справу аб ухіленні там ад выплат падаткаў і адмыванні грошай на 230 млн. еўра.

**Балгарыя.** Армія краіны да 2020 года поўнасцю адмовіцца ад эксплуатацыі 100 баявых самалётаў расійскай вытворчасці і паступова пяройдзе на амерыканскую тэхніку.

**Літва.** У пачатку снежня краіна можа адмовіцца поўнасцю ад закупак расійскага газу пасля запуску ў эксплуатацыю тэрмінала па перакачцы паліва ў Клайпедзе.

**Польшча.** Сусветна вядомы рэжысёр Кшыштаф Занусі заявіў, што выбраны Расіяй шлях канфрантацыі з Захадам і адраджэння савецкай імперыі – безнадзейны і вядзе яе ў тупік.

**Украіна.** Экс-“міністр абароны ДНР” І. Гіркін (Стралкоў) папярэдзіў жыхароў Данбаса рыхтавацца да выжывання, Расія не акажа рэальнай дапамогі непрызнанай “Наваросіі”.

**Германія.** Былы віцэ-прэм'ер Расіі Альфрэд Кох прадказаў Расіі і Пуціну хутка вельмі змрочныя часы, заняпад эканомікі, дэфіцыт, калі і крытычны імпарт стане недаступным.

**Малдова.** Каардынацыйны савет тэлерадыёвяшчання краіны аштрафаваў усе тэлеканалы за трансляцыю хлуслівых расійскіх навін пра падзеі ва Украіне, распальванне нянавісці.

**Грузія.** Народны артыст СССР В. Кікабідзе заявіў, што каб быў маладым, то ўдзельнічаў бы ў АТА на баку Украіны, бо Пуцін – захопнік, палітык чорнай сілы, яго заклініла.

**Калумбія.** Падчас багаслужэння ў горнай мясцовасці ля горада Гуачак удар маланкі забіў 11 і параніў апёкамі цела яшчэ 15 чалавек, поўнасцю згарэў і мясцовы храм.

**Расія.** З удзелам міністра культуры Беларусі Б. Святлова, артыстаў ансамбля “Песняры” ў Екацярынбургу адкрылі 3,5-метровы помнік славутаму музыканту Уладзіміру Мулявіну.

**Кітай.** Выпушчаны на волю ў маі сёлета У. Пуціным тыгр Кузя з Амурскай вобласці пераплыў раку Амур і з'явіўся ў перадгор'і Малога Хінгана ў пошуках харчавання.

## Літва пачынае экспарт малака ў Беларусь

■ Delfi. lt

**Паколькі Расія забараніла імпарт сельскагаспадарчых і харчовых прадуктаў, літоўскія малочнікі пачалі экспартаваць сваю прадукцыю ў Беларусь, аднак тэмпы экспарту тармозяцца затрымкамі ў разліках, паведаміла газета Lietuvos zinios.**

«Тысячы тон былі вывезены за якія тры тыдні. Гэты працэс пачаўся ў сярэдзіне верасня», — паведаміў газеце віцэ-старшыня Літоўскай сельскагаспадарчай палаты і пайшчык кааператыва Pienas LT Бронюс Маркаўскас.

Паводле яго слоў, тэмпы малочнага экспарту ў Рэспубліку Беларусь пакуль павольныя, бо позняцца разлікі, аднак гэта досыць звычайная практыка на беларускім рынку. Гаворачы аб дзейнасці кааператыва Pienas LT Маркаускас адзначыў, што ў Беларусі ідзе пошук партнёраў, якія могуць пастэрызаваць малако.

«Пакуль мы шукаем партнёраў, якія б маглі пастэрызаваць малако. Таму вядзем перамовы з перапрацоўшчыкамі. Пасля ўвозу малака з Літвы, Польшчы беларусы могуць вырабіць прадукты і экспартаваць іх у Расію. Гэта для іх можа быць залатая жыла», — сказаў Маркаўскас.

# Падзеі, пра якія гаворыць Беларусь

**Мінск.** Айчынная эканоміка, як заявіў экс-глава Нацбанка С. Багданкевіч, у крызісе, і ў 2015 годзе інфляцыя будзе больш 20%, рубль абваліцца без новых крэдытаў Расіі.

**Барысаў.** Мясцовы мясакамбінат увайшоў у тройку самых праблемных ААТ Беларусі, сур'ёзныя цяжкасці і ў МАЗа, “Крыніцы”, цэментных заводаў, “Гомельшкла”, БелАЗа.

**Гродна.** Яшчэ адну партыю з 10 тон ахалоджанай ялавічыны вярнулі мясцовому мясакамбінату расійскія ветэрынарныя службы, раней у Падмаскоўі таксама не ўзялі 6 тон вяндлін і каўбас.

**Абчак.** На заводзе “Юнісан” у 10 кіламетрах ад Мінска з лістапада пачнецца выпуск 6 мадэляў французскіх аўтамабіляў Peugeot і Citroen з продажам праз іх дылерскія цэнтры.

**Рэчыца.** Упершыню ў гісторыі Беларусі на адным з мясцовых радовішчаў пачалі прамысловую здабычу нафты са сланцавых шчыльных парод, іх запасы 700 тысяч тон.

**Гродна.** На базе “Гроднаавія” Мінтранс Беларусі вырашыў стварыць другую міжнародную пасажырскую авіякампанію, канкурэнта асноўнага перавозчыка “Белавії”.

**Смалявічы.** З 7 лістапада са станцыі Мінск-Пасажырскі да Нацыянальнага аэрапорта Мінск-2 пачнуць хадзіць сучасныя дызель-цягнікі, дарога зойме каля адной гадзіны.

**Мінск.** Вядомы эканаміст Л. Злотнікаў заявіў, што сам Данбас Расіі не цікавы, ёй патрэбен кантроль над усёй Украінай, бо без украінцаў ЕўрАзЭС губляе сваё значэнне.

**Жодзіна.** Падчас перавозкі з Расіі буйной партыі псіхатропнага рэчыва затрымалі 20-гадовага студэнта-завочніка, зелля хапіла б на прыгатаванне 50 тысяч доз спайсу.

**Гродна.** Падчас атрымання хабару ў суме 4 тысячы долараў КДБ затрымаў начальніка землеўпарадкавальнай службы і начальніка гаспадарчага аддзела гарвыканкама.

**Мінск.** З-за адсутнасці фондавага рынку, як заявіў генеральны дырэктар Бізнес-школы ІПМ Павел Данейка, у Беларусі стрымліваецца рост эканомікі і заробкаў працоўных.

**Гомель.** Пенсіянера Ю. Рубцова пакаралі 1,5 гадамі калоніі-пасялення, ён абазваў суддзю “падонкам” за свой арышт толькі за хаджэнне ў майцы з надпісам “Лукашэнка, сыходзь!”.

**Брэст.** Міліцыя затрымала неадназнавагаў судзімага 25-гадовага п'янага кіроўцу, у яго ніколі не было правоў, ён аказаў супраціўленне і зламаў нос супрацоўніку ДАІ.

**Лунінец.** Суд сурова пакараў 1,5 гадамі калоніі строгага рэжыму 27-гадовага рыбавода за злоснае браканьерства ў час нерасту, ён злавіў тады броднікам 24 кілаграмы рыбы, 48 шчупакоў.

**Барысаў.** На матчы зборных Беларусі з Украінай гледачы з абедзвюх краін разам спявалі пра гнілое нутро Пуціна і “Жыве Беларусь!”, пасля сустрэчы было шмат затрыманых.

## 2015 у Беларусі аб'яўлены Годам моладзі

**2015 у Беларусі аб'яўлены Годам моладзі. Адпаведны ўказ Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь падпісаў 16 кастрычніка.**

Дакумент прыняты ў мэтах развіцця творчага, навуковага і прафесійнага патэнцыялу моладзі, яе актыўнага прыцягнення да правядзення сацыяльна-эканамічных пераўтварэнняў у Беларусі, выхавання пачуцця патрыятызму і грамадзянскай адказнасці ў маладых грамадзян, паведамляе прэс-служба кіраўніка дзяржавы.

Ураду даручана сумесна з аблвыканкамамі і Мінскім гарвыканкамам распрацаваць і зацвердзіць рэспубліканскі план мерапрыемстваў па правядзенні ў 2015 годзе Года моладзі.

На пачатак 2014 колькасць моладзі ва ўзросце ад 14 гадоў да 31 года ў Беларусі складала 2.185.000 чалавек, або 23,08% агульнай колькасці насельніцтва краіны.

Рашэнне праблем, якія хвалююць моладзь, з'яўляецца складовай часткай дзяржаўнай палітыкі ў галіне сацыяльна-эканамічнага, культурнага і нацыянальнага развіцця краіны. Аб'яўленне 2015 года Годам моладзі прыцягне дадатковую ўвагу органаў дзяржаўнага кіравання, шырокай грамадскасці да пытанняў рэалізацыі асноўных напрамкаў дзяржаўнай маладзёжнай палітыкі ў Беларусі.

# Панарама ўнутрыабласных падзей

**Орша.** Міністр сельскай гаспадаркі Беларусі Л. Заяц не пагадзіўся з расійскай ветслужбай, што ў варанай каўбасе мясцовага мясакамбіната магла быць генома чумы свіней.

**Віцебск.** З пачатку года за 9 месяцаў 244 беспрацоўныя ў вобласці атрымалі дзяржаўныя субсідыі на арганізацыю прадпрымальніцкай дзейнасці, яшчэ 139 – навучанне на курсах.

**Наваполацк.** Днём на адной з тэхналагічных установак сыравіны ААТ “Нафтан” ледзь не адбыўся пажар пасля ўцечкі бензіна з сепаратара на плошчы больш 15 кв. метраў.

**Талачын.** Вечарам у вёсцы Нарцызава з-за замыкання вентылятара загарэўся цэх па вырошчванні бройлераў, людзі не пацярпелі, агонь пашкодзіў 9 ліній кармлення, паення.

**Обаль.** На мясцовым керамічным заводзе ў цэху № 2 пачалі мантаж новай лініі па выпуску цэглы метадам пластычнага фармавання, яе павінны запусціць будучай вясной.

**Віцебск.** У абласную бальніцу шпіталізавалі з траўмай калена 4-гадовага хлопчыка, які на вачах у маці ўпаў у каналізацыйны калодзеж, гуляючы на вуліцы Ленінградскай.

**Гарадок.** Камітэт Дзяржкантролю пакараў адразу трох кіруючых работнікаў раёна за несвоечасовае рэагаванне на крытычныя матэрыялы ў мясцовых СМІ.

**Ушачы.** Раніцай у вёсцы Глыбочка адбыўся выбух газу, людзі былі ў другім пакоі і не пацярпелі, але выбіла вокны ў доме, аказаліся пашкоджанымі сцены і столь хаты.

**Талачын.** Мясцовы элеватар заключыў дамову з райкамунгасам на пастаўку для гарадской кацельні частку адходаў ад вытворчасці, дагэтуль яны проста знішчаліся.

**Віцебск.** Абласная друкарня адмовілася выканаць заказ на выпуск сшыткаў на 48 лістоў, афармленых да 500-й гадавіны бітвы пад Оршай, калі войскі ВКЛ разбілі расейцаў.

**Шуміліна.** Настаўніца Обальскай СШ Т. Карнеева трапіла ў фінал XIV Міжнароднага Пушкінскага конкурсу настаўнікаў рускай мовы, заваявала ў Маскве дыплом і прэмію.

**Глыбокае.** Услед за іншымі райцэнтрамі вобласці гарадскі цэнтр культуры атрымаў абсталяванне для дэманстрацыі гульнявых і мультыплікацыйных фільмаў у фармаце 3D.

**Паставы.** Каля апоўначы загарэўся дом у цэнтры горада, байцы МНС выратавалі жыццё спаўшага 43-гадовага мужчыны, яго даставілі на лячэнне ў райбальніцу.

**Віцебск.** На глебе рэўнасці 49-гадовы беспрацоўны з абласнога цэнтра вечарам зарэзаў нажом у сваім доме знаёмую 50-гадовую жанчыну з прыгараднай вёскі Падбярэззе.

**Полацк.** Услед за вясляпрным цэнтрам і спорт-цэнтрам “Алімпіец” пасля рэканструкцыі адкрылі абноўлены гарадскі спорткомплекс з трыма заламі ля стадыёна “Спартак”.

*Служба інфармацыі “ВГ”.*

# Тозік: Гэта будзе жахліва, калі мы страцім мову



**«Гэта будзе жахліва, калі мы страцім мову. Чым мы тады будзем адрознівацца ад нашых суседзяў? Як гэта разумець, калі ў нас гісторыю і геаграфію Беларусі большасць вывучаюць па-руску. Грамадзянін Беларусі абавязаны валодаць дзвюма дзяржаўнымі мовамі», — падкрэсліў віцэ-прэм'ер Анатоль Тозік у чацвер на пасяджэнні рабочай групы, створанай для аналізу сістэмы адукацыі.**

Мерапрыемства прайшло на базе сярэдняй школы №20 горада Барысава, паведамляе агенцтва ***БелТА***.

Калі «матчына мова» сыдзе са школы, — памрэ нацыя, упэўнены члены рабочай групы. На гэтае пытанне ўжо не раз звяртаў увагу і кіраўнік дзяржавы, адзначаецца ў паведамленні.

Члены камісіі таксама прапануюць прыбраць з назвы школ указанне на канкрэтную мову навучання і ўвесці абавязковы іспыт па дзвюх дзяржаўных мовах за курс сярэдняй школы (цяпер навучэнцы здаюць такі іспыт на выбар).



**17 кастрычніка былі падведзеныя вынікі конкурсу "Лепшая рэгіянальная газета-2014", які арганізавала беларуская Асацыяцыя выдаўцоў рэгіянальнай прэсы "Аб'яднаныя Масмедыі" пры ўдзеле аналагічнай польскай асацыяцыі Stowarzyszenie Gazet Lokalnych.**

У Асацыяцыю выдаўцоў рэгіянальнай прэсы "Аб'яднаныя Масмедыі" ўваходзяць 13 газет Беларусі: «Брестская газета» (Брэст),«Брестский курьер» (Брэст), «Борисовские новости» (Барысаў), «Вечерний Бобруйск» (Бабруйск), «Газета Слонімская» (Слонім), «Ганцавіцкі час» (Ганцавічы), «Вольнае Глыбокае» (Глыбокае), «Информ-прогулка» (Лунінец), «Интекс-пресс» (Баранавічы), «Інфа-Кур'ер» (Слуцк), «Наша слова» (Ліда) «Нясвіжскі час» (Нясвіж) «Рэгіянальная газета» (Маладзечна).

Акрамя вызначэння лепшай рэгіянальнай газеты Беларусі 2014 года, былі падведзеныя вынікі конкурсу сярод журналістаў у розных намінацыях (эканоміка і бізнэс, журналісцкае расследаванне, гісторыя і краязнаўства, экалогія, соцыум...). Журы, куды ўваходзілі вядомыя беларускія журналісты і мовазнаўцы, а таксама польскія, мусіла выбраць пераможцаў сярод больш чым за 250 публікацый дасланых на конкурс.

Урачыстая імпрэза ўганаравання адбылася ў мінскай кнігарні «Галіяфы». Лепшай рэгіянальнай газетай 2014 года прызнаны «Вечерний Бобруйск». **«Вольнаму Глыбокаму»** дастаўся дыплом за лепшыя гісторыка-краязнаўчыя матэрыялы, атрымаў яго Уладзімір Скрабатун.

**На здымку:** Алесь Манцэвіч («Рэгіянальная газета», г. Маладзечна) атрымлівае дыплом за перамогу журналіста «РГ» у адной з намінацый.

# 25 кастрычніка Лучай запрашае на свята музыкі

**Парафія св. Юды Тадэвуша, Апостала запрашае на супольную малітву і свята музыкі, якое адбудзецца ў суботу, 25 кастрычніка. Пачатак а 15 гадзіне.**

**Праграма:**

**15.00** - Адарацыя Найсвяцейшага Сакрамента (ружанец і магчымасць споведзі) з моладзевым гуртом з Віцебска;

**16.00** - урачыстая святая Імша з удзелам Віцебскага хора парафіі Святога Духа;

**18.00** - Канцэртная праграма духоўнай і класічнай музыкі. Удзельнікі: акардэаністы Дзмітрый Корсак і Аляксандра Бузун (Мінск); артысты Мінскай дзяржаўнай філармоніі Тацццяна Грыневіч, Юры Габрусь і моладзь; беларуская літаратурная суполка "Літара-А" з кіраўніком Дзянісам Бурко (Мінск).

*кс. Мікалай Ліпскі.*

# Вы заплацілі зямельны падатак?

Інспекцыя Міністэрства па падатках і зборах Рэспублікі Беларусь па Глыбоцкім раёне просіць грамадзян, якія маюць ва ўласнасці жылыя дамы, гаражы, іншыя будынкі, а таксама зямельныя ўчасткі, **выплаціць да 1 лістапада 2014 года зямельны падатак**, падатак на нерухомасць і арэндную плату за зямельныя ўчасткі.

Прыём плацяжоў ажыццяўляецца ва ўсіх установах банкаў (акрамя ААТ Белзнешэканомбанк), аддзяленнях сувязі, а таксама з выкарыстаннем сістэмы дыстанцыйнага банкаўскага абслугоўвання (інтэрнэт-банкінг, інфакіёск, банкамат).

Па ўзніклых пытаннях можна звяртацца ў інспекцыю МПЗ Рэспублікі Беларусь па Глыбоцкім раёне: г.Глыбокае, вул. Чырвонаармейская,8, кабінеты 4,5,6,7 ці па тэлефонах 2-13-42, 2-26-76, 2-29-48.

***Л.Рабіза,***
*начальнік аддзела кантролю за фізічнымі асобамі.*

# У Глыбокім за вымантачванне крэдыту арыштаваны дырэктар прыватнай фірмы

**У адносінах дырэктара прыватнага прадпрыемства з Глыбокага раённай пракуратурай узбуджаныя крымінальныя справы — ён вінавацiцца ва ўхіленні ад пагашэння крэдыторскай запазычанасці, вымантачванні крэдыту, а таксама ў крадзяжы шляхам злоўжывання службовымі паўнамоцтвамі.**

Пасля ўзбуджэння крымінальных спраў па матэрыялах Глыбоцкага міжраённага аддзела ўпраўлення Дэпартамента фінансавых расследаванняў Камітэта дзяржкантролю па Віцебскай вобласці, прадпрымальнік быў арыштаваны.

Раней бізнэсмэн ужо двойчы прыцягваўся да адказнасці за незаконную прадпрымальніцкую дзейнасць, бо без рэгістрацыі ён аказваў паслугі па будаўніцтве. Пры гэтым мужчына павінен быў выплаціць дзяржаве 2 мільярды рублёў.

Каб старыя абавязкі не псавалі свежую крэдытную гісторыю, прадпрымальнік стварыў новую фірму, якая сталася свабоднай ад ранейшых абавязанняў уладальніка. А таму і крэдыторы сталіся бязсільныя, паведамляе прэс-служба КДК.

У наш час праваахоўнымі органамі праводзіцца актыўны вышук маёмасці бізнэсмэна з Глыбокага, якая галоўным чынам зарэгістравана на яго сваякоў. Калі злачынствы прадпрымальніка будуць даказаныя, яго чакае пазбаўленне волі на тэрмін ад 5 да 12 гадоў з канфіскацыяй маёмасці.

# Канцэрт да Дня маці



Марыя Грыцкевіч

**На Беларусі адзначылі Дзень маці. У нашай краіне гэтае свята прымеркаванае да праваслаўнага Пакрова Найсвяцейшай Багародзіцы.**

У Дзень маці прынята віншаваць жанчын, якія ўжо маюць дзяцей, а таксама цяжарных — тых, хто рыхтуецца стаць мамай.

З гэтай нагоды ў Дзяржаўнай установе адукацыі Цэнтры дзяцей і моладзі Глыбоцкага раёна адбыўся святочны канцэрт, які падрыхтавалі ўдзельнікі гуртка спеваў.

Да гэтага святочнага канцэрта юныя выканаўцы падрыхтаваліся вельмі старанна. Можна сказаць: у Глыбокім ёсць сапраўдныя таленты, якія парадавалі прысутных, найперш мам, сваім цудоўным выкананнем папулярных песень..

**На здымку:** Марыя Грыцкевіч выконвае песню "Залатая рыбка".

*Ул. Скрабатун.*

# ДАІ рэкамендуе загадзя паклапаціцца аб сезоннай змене шын

**Дзяржаўтаінспекцыя рэкамендуе кіроўцам загадзя паклапаціцца аб сезоннай змене шын, паведамілі ва УДАІ МУС Беларусі.**

«З улікам мінулагодняй статыстыкі, калі ў дзень першых асенніх замаразкаў на дарогах адбылася рэкордная колькасць ДТЗ, ДАІ рэкамендуе аўтаўладальнікам загадзя замяніць на транспартных сродках летнія шыны на зімовыя», – сказалі ў Дзяржаўтаінспекцыі.

У ДАІ адзначылі, што змена шын тым больш актуальная, што ў хуткім часе ўступіць у законную сілу ўказ нумар 483,

якім унесены змяненні і дапаўненні ва ўказ ад 28 лістапада 2005 года нумар 551 «Аб мерах па павышэнні бяспекі дарожнага руху». «У дакуменце прадугледжваецца абавязковае выкарыстанне ў перыяд з 1 снежня па 1 сакавіка зімовых шын на аўтамабілях з тэхнічна дапушчальнай агульнай масай да 3,5 т, легкавых і грузапасажырскіх аўтамабілях масай большай за 3,5 т, а таксама аўтобусах масай да 5 т», - нагадалі ва ўпраўленні.

У нашым клімаце, каб адчуваць сябе на дарозе ўпэўнена і бяспечна, аўтамабілям патрэбны абутак па сезоне. Гэта дапаможа скараціць тармазны шлях і значна палепшыць кіраванне аўтамабілем ва ўмовах слізкай дарогі.

***БелТА***

# На Мёршчыне выявілі еўрапейскую балотную чарапаху



**Еўрапейская балотная чарапаха велічынёй з далонь дарослага чалавека выяўлена за 1,5 кіламетра ад граніцы рэспубліканскага гідралагічнага заказніка "Ельня". Гэтая жывёліна ў Беларусі сустракаецца вельмі рэдка і толькі на поўдні рэспублікі, пераважна ў пойме Прыпяці. Паўночная мяжа яе распаўсюджання на ўзроўні гарадоў Гродна-Стаўбцы-Мінск**

На Віцебшчыне знаходзілі адзінкавыя экзэмпляры і толькі на поўдні вобласці. Для Мёршчыны гэта першы выпадак. Кіраўнік ДПУ "Ельня" І. І. Барок сцвярджае, што гэта не завезеная чалавекам чарапаха, бо яна выяўлена ў прывычных для яе ўмовах жыцця — на нізінным балотцы, якое рэдка наведваюць людзі, паблізу мелкіх вадаёмчыкаў і меліярацыйных каналаў. У спрыяльным асяроддзі яна можа вырастаць да 25 сантыметраў, калі мерыць па панцыру.

Просьба да наведвальнікаў нізінных балот старанна глядзець пад ногі, каб не нашкодзіць нечаканым гасцям. А вось забіраць чырвонакніжных жывёл дадому нельга, гэта з'яўляецца сур'ёзным парушэннем прыродаахоўнага заканадаўства, за якое прадугледжаны значныя штрафы.

*"Міёрскія Навіны".*

# Свавольства са зброяй прывяло героя на лаву падсудных

## Заміж забітай казулі браканьер убачыў параненага суседа

**Аляксей Протас,**
*начальнік Глыбоцкай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і раслінннага свету.*

Штотыдзень ва ўсіх сродках масавай інфармацыі з'яўляюцца артыкулы, нататкі пра здзейсненыя факты браканьерства на тэрыторыі рэспублікі, аб асобах, якія іх здзейснілі і пакараннях, вынесеных судамі за здзейсненыя злачынствы. Тэлеперадача Зона "Х" сістэматычна асвятляе самыя свежыя факты парушэння прыродаахоўнага заканадаўства. Адносіны грамадзян да парушэнняў прыродаахоўнага заканадаўства прыкметна змяніліся, грамадзяне нашматрадзей парушаюць і часцей звяртаюцца ў прыродаахоўныя органы, паведамляючы пра факты браканьерства і парушэннях.

Аднак, яшчэ не рэдкія выпадкі браканьерства, пры гэтым грамадзяне наўмысна парушаюць закон, нягледзячы на заўвагі грамадзян аб парушэнні, браканьеры іх проста ігнаруюць, лічачы сябе вышэй іншых і вышэй закона. Свядомасць такіх людзей застаецца на ўзроўні найпростых мікраарганізмаў, інстынкт самазахавання адсутнічае цалкам. Паталагічнае жаданне некаторых грамадзян мець і захоўваць у сябе зброю, нават незарэгістраваную ва ўсталяваным парадку, часта прыводзіць да трагічных наступстваў. У народзе нездарма кажуць, вісячая на сцяне стрэльба, нават не зараджаная, адзін раз у год страляе. І вось адзін з прыкладаў.

Жыхар Пастаўскага раёна, назавём яго "Пётр", аматар зброі, маючы ў сябе незарэгістраваны ствол, што ўжо парушэнне закона, вырашыў пагоршыць сваю віну і паесці яшчэ і дзікага мяса, бо яно – дыетычнае. Узяўшы незарэгістраваную стрэльбу, патроны, наш герой накіраваўся ў лес... Але, нават са стрэльбай на браканьерскім паляванні – страшна, мужчына баяўся кожнага шоргату і гатовы быў страляць па ўсім, што варушыцца і рухаецца. Убачыўшы на ўскрайку лесу рух, наш герой, доўга не думаючы, "шмальнул" па аб'екце, які рухаецца, і – патрапіў. "Пётр" хуценька пабег да ахвяры, уяўна прадчуваючы добрую вячэру, але якое ж было яго здзіўленне, калі замест забітай казулі, выявіў параненага чалавека ды яшчэ і знаёмага. Мужчына з суседняй вёскі быў цяжка паранены, і "Пётр" знайшоў у сабе адвагу выклікаць хуткую і міліцыю. Зараз прыйдзецца адказваць і за наўмыснае нанясенне цялесных пашкоджанняў і за браканьерства і за незаконнае захоўванне зброі. Вось так, свавольства са зброяй прывяло нашага героя на лаву падсудных. Вядзецца следства, і адзнаку ўсяму дасць суд, але хацелася б звярнуцца да такіх жа горапаляўнічых – здайце зброю і не выпрабоўвайце лёс!

Глыбоцкая міжраённая інспекцыя аховы жывёльнага і расліннага свету просіць усіх грамадзян паведамляць пра ўсе парушэнні прыродаахоўнага заканадаўства на тэлефоны "гарачай лініі" кругласутачна: 8-02156- 2-86-70, 2-80-30, маб. 897-23-02, 890-55-28, 249-45-49, 645-66-78.

# Просім адгукнуцца сведкаў ДТЗ

У вытворчасці Глыбоцкага раённага аддзела Следчага камітэта знаходзіцца крымінальная справа, узбуджаная па факце дарожна-транспартнага здарэння, якое адбылося 21.08.2014 у 20 гадзін 45 хвілін ля будынка пошты па адрасе г. Глыбокае, Леніна 6 з удзелам аўтамашыны "Мазда-626" белага колеру і веласіпедыста. У выніку атрыманых траўмаў у ДТЗ 29.08.2014 веласіпедыст памёр у бальніцы.

Сведкаў дарожна-транспартнага здарэння просім звяртацца ў Глыбоцкі раённы аддзел Следчага камітэта па адрасе: г. Глыбокае, вул.Леніна, д. 95, каб.№7, ці патэлефанаваць на нумары: 2-54-91, 5-04-09.

***Ю.Е. Суднік,***
*ст. следчы СА Глыбоцкага РАСК, маёр юстыцыі.*

# Сярэдні заробак у Эстоніі перавысіў 1 000 еўра

**Сярэдні месячны брута-заробак (да выплаты падаткаў) у другім квартале (красавік-чэрвень) 2014 года, у параўнанні з тым жа перыядам 2013 года, больш за ўсё ў краінах Балтыі вырас у Латвіі, паведамляе Delfi.**

Квартальны прырост самым вялікім быў у Эстоніі — 5,8%. У Латвіі ён склаў 2,9%, у Літве — 1,7%.

У Эстоніі сярэдні брута-заробак складае 1 023 еўра, у Латвіі — 762 еўра, у Літве – 682 еўра.

У Латвіі і Эстоніі з 1 студзеня 2014 года была павышана мінімальная зарплата: у Латвіі — з 285 да 320 еўра (на 12,5%), у Эстоніі — з 320 да 355 еўра (на 10,9%).

Нагадаем, што згодна са звесткамі Белстата, сярэдні налічаны (брута) заробак у Беларусі ў жніўні склаў 6 млн 364,5 тыс. рублёў (каля 465-470 еўра).

***Delfi.***

# У студзені-жніўні грашовыя даходы насельніцтва ў разліку на душу насельніцтва склалі каля 4,5 млн. рублёў у месяц

**У Беларусі ў студзені-жніўні 2014 года агульны аб'ём грашовых даходаў насельніцтва склаў 338,4 трлн. рублёў, у разліку на душу насельніцтва — 4 млн. 468 тыс. рублёў у месяц, паведамілі ў Нацыянальным статыстычным камітэце.**

У агульным аб'ёме грашовых даходаў аплата працы займае 64%, даходы ад прадпрымальніцкай і іншай дзейнасці, якая прыносіць даход, — 10,1%, трансферты насельніцтву (пенсіі, дапамогі, стыпендыі і інш.) — 20,8%, даходы ад уласнасці і іншыя даходы — 5,1%.

Рэальныя наяўныя грашовыя даходы (грашовыя даходы за вылікам падаткаў, збораў і ўзносаў, скарэкціраваныя на індэкс спажывецкіх цэн на тавары і паслугі) у студзені—жніўні 2014 года ў параўнанні са студзенем—жніўнем 2013 года павялічыліся на 2,7%.

***Марына Носава, БелаПАН.***

# Урад Беларусі прапануе павялічыць мінімальны працоўны стаж да 15 гадоў

**Урад Беларусі падрыхтаваў праект нарматыўнага акта, у якім прадугледжаны шэраг мер для максімальна магчымага прыцягнення да працы грамадзян, якія ўхіляюцца ад работы, а таксама для стварэння дадатковых стымулаў да добрасумленнай працы.**

Аб гэтым Аляксандру Лукашэнку 20 кастрычніка далажыў намеснік прэм'ер-міністра Анатоль Тозік на нарадзе па пытаннях занятасці і міграцыі ў краіне, паведамілі ў прэс-службе кіраўніка дзяржавы.



У прыватнасці, прапануецца павялічыць мінімальны працоўны стаж з выплатай абавязковых страхавых узносаў у фонд сацыяльнай абароны насельніцтва для назначэння працоўных пенсій з 10 да 15 гадоў. Пры разліку пенсій прапануецца браць за аснову апошнія 20 гадоў стажу. Пры адсутнасці патрабуемага агульнага і страхавога стажу работы — павысіць узрост для звароту за сацыяльнай пенсіяй на пяць гадоў: да 60 гадоў для жанчын і 65 гадоў для мужчын, а магчыма, і ўстанавіць аднолькавы парог узросту 65 гадоў.

Паводле слоў Анатоля Тозіка, для тых, хто не плаціць падаходны падатак і адлічэнні ў фонд сацыяльнай абароны, варта б вызначыць пералік мінімальнай дапамогі, якую ён можа атрымаць бясплатна ў дзяржаве.

Урад прапануе ўзмацніць уплыў доўгага працоўнага стажу на памер назначаемай пенсіі, у першую чаргу для нізкааплатных катэгорый работнікаў.

На думку віцэ-прэм'ера, каб насельніцтва лепш працавала, неабходна стварыць эканамічныя стымулы, скарэкціраваць сацыяльную палітыку і ўдакладніць дзяржаўныя сацыяльныя стандарты, перагледзець нормы працы. Анатоль Тозік лічыць, што рэалізацыя гэтых мер дала б магчымасць павысіць мінімальную заработную плату ў краіне, выраўнаваўшы яе паказчык з суседнімі краінамі.

У краіне пачата работа па забеспячэнні неабходнай мабільнасці рабочай сілы. У сувязі з гэтым урад лічыць мэтазгодным прадоўжыць скарачэнне будаўніцтва жылля з дзяржпадтрымкай і павелічэнне будаўніцтва даступнага па цане арэнднага жылля з адпаведнай падтрымкай шматдзетных сем'яў і іншых катэгорый, якія ў гэтым маюць патрэбу.

Віцэ-прэм'ер унёс таксама шэраг прапаноў, якія датычацца змянення структуры і якасці падрыхтоўкі кадраў, павышэння статусу прафесійна-тэхнічнай і сярэдняй спецыяльнай адукацыі, а таксама каардынавання работы міністэрстваў і ведамстваў. У пачатку лістапада гэтыя прапановы будуць унесены на разгляд кіраўніка дзяржавы.

Анатоль Тозік лічыць, што ў краіне ёсць магчымасці закрыць усе патрэбнасці эканомікі ўласнымі працоўнымі рэсурсамі, прымаючы з ліку замежных грамадзян толькі патрэбных для краіны спецыялістаў.

«Нам патрэбен вынік. Як вы будзеце дабівацца выніку — гэта ваша справа, - падкрэсліў Аляксандр Лукашэнка. — Але не павінен чалавек, які дзень пры дні на рабоце, працаваць на нейкіх яшчэ бамжоў!»

***БелТА.***

